ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

№ 25 (2375) 23 чэрвеня 1994 г. Выдаецца з 1955 г.
Цана 100 рублёў.

## КУЛЬТУРА БЕЛАРУСКАГА ЗАМЕЖЖА





**12-13 чэрвеня ў Мінску праходзіла Міжнародная навуковая канферэнцыя "Культура беларускага замежжа", якую ладзілі згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына" і Нацыянальны навукова-асветны цэнтр імя Ф.Скарыны. У ёй бралі ўдзел навукоўцы-гісторыкі, пісьменнікі, журналісты і публіцысты, якія спецыялізуюцца ў галіне беларускага замежжа, з Беларусі, Амерыкі, Вялікабрытаніі, Літвы, Латвіі, Эстоніі, Германіі, Расіі, Польшчы, Таджыкістана, Украіны, Узбекістана. На канферэнцыі прагучала каля 50 дакладаў і паведамленняў. Разглядаліся пытанні гісторыі, літаратуры, мастацтва, культуры ў самым шырокім аспекце. Уздымалася пытанне аб увядзенні культуры беларускага замежжа ў агульнанацыянальны кантэкст. Канферэнцыя працавала плённа і прайшла на высокім навуковым узроўні. "Мы спадзяваліся на поспех, але не думалі, што набыткі будуць такімі багатымі", -- сказаў, падсумоўваючы вынікі, старшыня аргкамітэта Анатоль Сабалеўскі. Мяркуецца, што ўсе выступленні будуць выдадзены асобнай кнігай.**

**Пасля заканчэння канферэнцыі ў Белдзяржфілармоніі адбыўся заключны канцэрт фестывалю "Культура беларускага замежжа". У ім удзельнічалі мастацкія калектывы Беларусі і блізкага замежжа. Гучала фальклорная музыка, а таксама музыка вядомых кампазітараў беларускага замежжа Міколы Равенскага, Яна Тарасевіча, Міколы [illegible]ковіча-Шчаглова, Ігара Мацеўскага і іншых.**

**(Больш падрабязную справаздачу аб канферэнцыі чытайце ў наступным нумары).**

**НА ЗДЫМКАХ: з прывітаннем да ўдзельнікаў канферэнцыі выступае старшыня Камісіі па адукацыі, культуры і захаванню гістарычнай спадчыны Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Ніл ГІЛЕВІЧ; удзельнікі канферэнцыі Зора КІПЕЛЬ (крайняя злева) і Вітаўт КІПЕЛЬ (другі справа) -- вядомыя грамадскія дзеячы са Злучаных Штатаў Амерыкі.**

**Фота Віктара СТАВЕРА.**

## Янка ЗАПРУДНІК:

# "Я ЗНАЙШОЎ СЭНС ЖЫЦЦЯ Ў СЛУЖБЕ СВАЙМУ НАРОДУ"

**Сёння з небыцця да нас вяртаюцца імёны, якія раней ганьбаваліся або старанна замоўчваліся. Адно з іх -- Янка Запруднік, паэт, рэдактар, гісторык, вядомы дзеяч беларускага замежжа. Нарадзіўся ў Міры ў 1926 годзе. У 1944-м апынуўся ў Нямеччыне. Там у акупацыйнай зоне ў 1947 годзе заканчвае беларускую гімназію імя Янкі Купалы. Разам з адзінаццаццю іншымі выпускнікамі падаецца ў Англію працаваць на шахтах з надзеяй зарабіць грошы на адукацыю. Па дарозе пачалі выдаваць бюлетэньчык, які пазней ператварыўся ў часопіс "Наперад", дзякуючы якому атрымалі вядомасць і былі запрошаны беларускія хлопцы вучыцца ў Лювенскі універсітэт у Бельгію. Пасля заканчэння ў 1954 годзе -- праца ў Мюнхене на радыёстанцыі "Вызваленне" (пасля перайменаваная ў радыё "Свабода"). У 1957-м з мэтай здабыць дактарат падаецца ў Амерыку. Там доўгі час працуе кіраўніком нью-йоркскай секцыі радыё "Свабода" (радыёслухачы ведаюць яго пад псеўданімам Арсень Загорны), галоўным рэдактарам нью-йоркскага месячніка "Беларус". Ён сябра ўправы Беларуска-Амерыканскага Задзіночання і Сакратарыята Рады Беларускай Народнай Рэспублікі. У 1969 годзе напісаў дысертацыю пра палітычнае змаганне за Беларусь у Дзяржаўных думах Расіі 1906--1917 гадоў і паспяхова абараніў дактарат. Выкладаў гісторыю Расіі і СССР у Квінскім каледжы. Аўтар некалькіх грунтоўных прац і кніг пра Беларусь. У цяперашні час -- ад'юнкт-прафесар інстытута імя А. Гарымана Калумбійскага універсітэта, дзе чытае курс лекцый па гісторыі і палітыцы Беларусі.**

У дзверы пастукалі, і яны шырока расчыніліся. "Хто тут Тася? Добры дзень! Я -- Янка. Я прыехаў у Менск..." Вось так адразу з парога, трошкі нечакана для мяне пачалася наша размова з Янкам Запруднікам.

— ...Цяперашні мой візіт вельмі насычаны. Прыехаў на шэсць тыдняў. Я ўжо браў удзел у міжнародным кангрэсе "Постталітарнае грамадства: асобы і нацыя". Планую быць на пасяджэнні Вялікай рады ЗБС "Бацькаўшчына" і канферэнцыі "Культура беларускага замежжа", трэба наведаць сваякоў у Міры, Баранавічах. Усе дні ў маім нататнічку распісаны па гадзінах. Сёння я меў ужо размову з уладыкам Філарэтам і вось зараз рады наведаць рэдакцыю вашай газеты.

-- На навуковай канферэнцыі "Культура беларускага замежжа", здаецца, будзе ўзнімацца пытанне аб прызнанні духоўных каштоўнасцей, створаных нашай эміграцыяй, і аб увядзенні культуры замежжа ў агульнанацыянальны кантэкст. На працягу доўгіх гадоў таталітарнага рэжыму вы клапатліва збіралі і захоўвалі культурныя набыткі нацыі, захавалі і ў пэўным сэнсе "закансервавалі" мову. Наогул замежныя беларусы сёння падаюцца больш беларусамі, чым мы, тутэйшыя...

-- Так, маеце рацыю.

— ...Адна з праблемаў, якая можа тут узнікнуць, гэта дэідэалагізацыя з абодвух бакоў.

**(Заканчэнне на 3-й стар.).**

# ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ

*ПРЭЗІДЭНЦКІЯ ГОНКІ*

## МЕНШ ЛАЯЦЬ АДЗІН АДНАГО

**Старшыня Вярхоўнага Савета Мечыслаў Грыб пакуль не вызначыўся, за каго аддасць свой голас на маючых адбыцца выбарах першага прэзідэнта Беларусі. Аб гэтым ён сказаў карэспандэнту Белінфарма ля трапа самалёта перад вылетам у Швейцарыю на форум у Кран-Мантане.**

**-- Я абяцаў, што да ўсіх кандыдатаў буду ставіцца аднолькава, каб нікому не перашкодзіць, -- сказаў Старшыня Вярхоўнага Савета Мечыслаў Грыб. -- І сваё абавязацельства я, здаецца, пакуль трымаю. Няхай кандыдаты ў прэзідэнты "змагаюцца" на роўных.**

**На пытанне, ці не бачыць кіраўнік парламента парушэнняў закону з боку некаторых кандыдатаў у прэзідэнты, Мечыслаў Грыб заўважыў, што, на яго думку, "парушэнні былі ў народнага дэпутата Аляксандра Лукашэнкі, які выступаў на мітынгах, заклікаў грамадзян да невыканання дзеючых у рэспубліцы законаў. Не заўсёды і іншыя кандыдаты прыслухоўваліся да патрабаванняў Цэнтральнай выбарчай камісіі. Мне вельмі не падабаецца, што кандыдаты лаюць адзін аднаго. Ім трэба было б больш даваць прапаноў, як выйсці з няпростага становішча, а людзі самі разбяруцца, хто з кандыдатаў добры, а хто не вельмі", -- сказаў Мечыслаў Грыб.**

## МЕЦЬ РОЎНЫЯ МАГЧЫМАСЦІ

**Адбылося пасяджэнне Цэнтральнай камісіі па выбарах прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, на якім была разгледжана дзейнасць Міністэрстваў сувязі і інфарматыкі, унутраных спраў і Дзяржтэлерадыё па падрыхтоўцы прэзідэнцкіх выбараў. Былі выказаны прэтэнзіі да асвятлення прэзідэнцкай кампаніі тэлебачаннем і радыё. Прызнана правамоцнай заява кандыдата ў прэзідэнты Станіслава Шушкевіча, у якой ён выказаў нязгоду з тым фактам, што падчас яго выступлення на радыё ў шэрагу раёнаў была адключана рэспубліканская трансляцыя і працавала мясцовае радыё. Цэнтральная выбарчая камісія прыняла рашэнне даць Станіславу Шушкевічу дадатковы час. Наогул, было падкрэслена, што Дзяржтэлерадыё павінна прадастаўляць усім кандыдатам роўныя магчымасці для правядзення агітацыі.**

## ГРАФ НЕ СУПАКОЙВАЕЦЦА

**Граф Аляксандр Прушынскі не пакідае надзею стаць першым прэзідэнтам Беларусі. Гэты польскі грамадзянін паабяцаў па 35 долараў кожнаму, хто, прымаючы ўдзел у выбарах, напіша на бюлетэні вялікімі літарамі "ГРАФ". Праўда, Аляксандр [illegible]вер'евіч абяцае ўручыць узнагароду толькі п[illegible] таго, як ён стане прэзідэнтам. Як граф зможа праверыць, хто з выбаршчыкаў паддаўся на доларавую прынаду? І тут варыянт прапанаваны: выбаршчык павінен забраць з сабой свой бюлетэнь.**

*БАНКІ*

## РАСТУЦЬ, ЯК ГРЫБЫ

**На 1 красавіка 1994 года ў Беларусі мелася 34 камерцыйныя банкі. З іх 21 акцыянерны (у тым ліку 7 -- закрытага тыпу), 8 утворана ў форме таварыства з абмежаванай адказнасцю і 1 філіял украінскага банка "ІНКО". На працягу года зарэгістравана 6 новых банкаў і 135 філіялаў.**

**Філіяльная сетка банкаўскіх установ, уключаючы агенцтвы Ашчаднага банка, складае 3 406 адзінак.**

**На адну крэдытную ўстанову прыпадае ў сярэднім 3 045 жыхароў Беларусі.**

*ПРЫЗНАЧЭННІ*

## НОВЫ ПАСОЛ У АЎСТРЫІ

**Указам Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Фісенка Валянцін Мікалаевіч прызначаны Надзвычайным і Паўнамоцным Паслом Рэспублікі Беларусь у Аўстрыйскай Рэспубліцы і Пастаянным прадстаўніком Рэспублікі Беларусь пры міжнародных арганізацыях у Вене. Яму нададзены дыпламатычны ранг Надзвычайнага і Паўнамоцнага Пасла.**

*"Рэспубліка чарговы раз у сваёй гісторыі стала перад неабходнасцю стратэгічнага выбару, неабходнасцю вызначыцца прынцыпова: альбо быць самастойнай адзінкай у свеце, альбо працягваць хадзіць у непаўналетніх і залежаць ад дзядзькі-апекуна. Гэта значыць пытанне стаіць аб статусе беларусаў у свеце, і такое эпахальнае пытанне не можа быць аддадзена на вырашэнне аднаму ці тысячы чалавек. Гэта -- рашэнне ўсёй нацыі. Калі нехта хоча зрабіць мяне расіянінам, то я адмаўляюся. Па-першае, таму, што ў мяне ўжо ёсць свая краіна, а па-другое, таму, што ў лепшым выпадку я мог бы стаць толькі другасортным расіянінам з правінцыі. Можа тады лепш падумаць пра тое, як стаць другасортным немцам ці амерыканцам? Як жа ўсё-такі быць з тымі, хто не адчувае Паволжа, Урал ці Сібір сваім домам? Таму, хто прагне быць расіянінам, можна, у крайнім выпадку, пераехаць у Расію. Тым, хто прагне застацца беларусам, куды падацца? Давайце любіць Расію з яе вялікай гісторыяй і культурай. І Польшчу, і Літву, і Германію, і Амерыку. Але давайце і сябе палюбім крышачку. І будзем самі адказваць за зямлю, дзе нарадзіліся і выраслі і дзе нам жыць".*

*Васіль ЕЎДАКІМАЎ,*
*член Асацыяцыі юрыстаў Еўрапейскага таварыства.*

*ПРЫВАТЫЗАЦЫЯ*

## З ВЯЛІКАГА ГРОМУ

**Прамыслоўцы Беларусі занепакоены тым, [illegible] ў ходзе пачатай прыватызацыі і акцыяніравання ўласнасць, на іх думку, "сплывае" ў нячыстыя рукі. Гэта праблема была вынесена на вялікі савет БНПА. Аб ходзе прыватызацыі і акцыяніравання ў сувязі з кампаніяй па выдачы чэкаў насельніцтву паведа[illegible] у сваім выступленні намеснік міністра па кіра[illegible] дзяржмаёмасцю і прыватызацыяй В.Давыдз[illegible]ка. Свае меркаванні па гэтых праблемах выказаў і эканамічны савет БНПА, дырэктары прадпрыемстваў і вучоныя. На аснове першых крокаў у галіне прыватызацыі і акцыяніравання яны лічаць, что ва ўмовах спаду вытворчасці гэтым шляхам эфектыўнасці Беларусь не дасягне.**

*ДЫПЛАМАТЫЧНАЯ ХРОНІКА*

## УРУЧАНЫ ВЯРЫЦЕЛЬНЫЯ ГРАМАТЫ

**Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Рэспублікі Беларусь у Вялікабрытаніі Уладзімір Сянько ўручыў вярыцельныя граматы каралеве Лізавеце ІІ. Афіцыйная цырымонія адбылася ў Букінгемскім палацы. На аўдыенцыі ў каралевы прысутнічаў пастаянны намеснік Дзяржсакратара Д.Гілмар.**

**На прыёме, наладжаным беларускім паслом з нагоды ўручэння вярыцельных грамат, прысутнічалі маршал дыпламатычнага корпуса Вялікабрытаніі, кіраўніцтва МЗС, прадстаўнікі парламента, дзелавых і фінансавых колаў, культуры і прэсы, а таксама паслы Расіі, Украіны, Літвы, Латвіі, Польшчы, Эстоніі, прадстаўнікі беларускай дыяспары ў Англіі.**

*ПАМЯЦЬ*

## ПАШАНА ЗАГІНУЎШЫМ

**Цэлы месяц пошукавыя атрады з ўсёй Беларусі будуць працаваць на месцах былых баёў у Віцебскай вобласці, каб аддаць апошнюю пашану загінуўшым у гады ваеннага ліхалецця, перапахаваўшы іх астанкі.**

**За час гэтай акцыі на беразе ракі Лучэса з'явіцца помнік воінам, а ў Полацку, на месцы расстрэлу 20 тысяч ваеннапалонных, будзе адкрыты мемарыял.**

**Завершыцца вахта Памяці ў дзень святкавання юбілею вызвалення рэспублікі ад фашысцкіх захопнікаў.**

*САМЫ ЛЕПШЫ*

## ЧАРНОБЫЛЬ І БЕЛАРУСЬ

**Дакументальны фільм "Чарнобыль і Беларусь", зняты нашымі кінематаграфістамі, прызнаны адной з самых яркіх работ, прадстаўленых на Міжнародным фестывалі экалагічнага кіно ў Ізраілі. Хаця прызы на ім не прысуджаліся, меркаваць аб поспеху фільма можна па геаграфіі яго пракату: Іерусалім, Тэль-Авіў, Хайфа, шэраг іншых гарадоў і пасёлкаў краіны. Беларуская дэлегацыя сустрэлася не толькі з калегамі-кінематаграфістамі, але і з членамі ізраільскага ўрада -- міністрам адукацыі, культуры і спорту А. Рубінштэйнам і міністрам, які курыруе пытанні мастацтва, Ш. Апоні.**

**Дасягнута дамоўленасць аб здымках некалькіх сумесных беларуска-ізраільскіх дакументальных фільмаў.**

*ВЕСТКІ АДУСЮЛЬ*

ЗАМЕСТ старога Дня савецкага друку, які адзначаўся 5 мая, Указам Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь зацверджаны новы -- свой, нацыянальны. І называцца гэтае свята будзе -- Дзень беларускага пісьменства і друку. Адзначацца ён будзе ў першую нядзелю верасня.

22 ДОНАРЫ, якія здавалі кроў на плазмафарэз у Магілёўскай абласной станцыі пералівання крыві, трапілі ў рэанімацыйнае аддзяленне бальніцы з дыягназам: таксічная рэакцыя. Прычына -- пластыкатныя мяшкі-кантэйнеры, якімі карысталіся ўрачы. Закупленыя ў Швейцарыі, яны аказаліся проста нестэрыльнымі. Усяго ж такіх кантэйнераў Беларусь закупіла 600 тысяч штук на агульную суму 16 мільёнаў долараў.

ПАВЕЛ КАЗЛОЎСКІ, міністр абароны Беларусі, падаў у суд на кандыдата ў прэзідэнты А. Лукашэнку і газету "Звязда", што надрукавала яго выступленне, патрабуючы абароны гонару. Лукашэнка, які абвінаваціў Казлоўскага і яго ведамства ў карупцыі, на суд не з'явіўся і нават не прыслаў свайго адваката. Міністр абароны не мае намеру адступаць.

СПЕЦЫЯЛЬНАЙ пастановай урада з 1 чэрвеня 1994 года творчым работнікам літаратуры, культуры, мастацтва і архітэктуры, якім прысвоены ганаровыя званні "Народны пісьменнік Рэспублікі Беларусь", "Народны паэт Рэспублікі Беларусь", "Народны артыст Рэспублікі Беларусь", "Народны мастак Рэспублікі Беларусь", "Народны архітэктар СССР" і асноўным месцам работы якіх з'яўляюцца ўстановы літаратуры, культуры і мастацтва, што фінансуюцца за кошт сродкаў дзяржаўнага бюджэту, устаноўлена штомесячная даплата ў памеры 5 мінімальных заработных плат, незалежна ад займаемай пасады.

МІНУЛА 10 гадоў, як пачало працаваць метро сталіцы. За гэты час перавезена больш за 1 мільярд пасажыраў. Штодзень паслугай мінскай падземкі карыстаецца 420 тысяч чалавек. Сёлета чакаецца, што яна падоўжыцца на 2,92 кіламетра, адкрыюцца 2 новыя станцыі -- "Маладзёжная" і "Пушкінская".

БОЛЬШ за 4 500 парушэнняў закону спыніў сёлета беларускія мытнікі. На граніцы затрымана тавараў і каштоўнасцей, якія перавозіліся незаконна, на суму 52 мільярды рублёў. Распачата 25 крымінальных спраў. Спынена 12 спробаў перавозу наркотыкаў, 20 -- зброі і боепрыпасаў.

АДБЫЎСЯ першы выпуск студэнтаў адноўленай Мінскай духоўнай семінарыі, што месціцца ў сценах Свята-Успенскага манастыра ў Жыровіцах. Дыпломы атрымалі 21 студэнт дзённага і 43 -- завочнага аддзялення. Семінарыя была адноўлена ў 1989 годзе.

КАЛІ ВЕРЫЦЬ Цэнтру даследаванняў будучыні пры ІПК "Эрыдан", то большасць насельніцтва Беларусі (79,4 працэнта) за тое, каб у Рэспубліцы Беларусь было дзве дзяржаўныя мовы: руская і беларуская. Толькі беларускую мову ў якасці дзяржаўнай хочуць зацвердзіць 14,7 працэнта рэспандэнтаў. Дзяржаўнасць адной рускай мовы адстойваюць 4,4 працэнта апытаных.

*ФЕСТЫВАЛЬ БЕЛАРУСКАЙ ПЕСНІ І ПАЭЗІІ*






**Другі нацыянальны фестываль беларускай песні і паэзіі прашоў у Маладзечне. У конкурсе спевакоў прынялі ўдзел выканаўцы ва ўзросце да 20 гадоў.Гран-прыфестывалю -- аўтамабіль "Жыгулі" быў прысуджаны Наталлі Кудрынай з Магілёва.**

**Фестываль стаў для маладзечанцаў агульнагарадскім святам. На розных адкрытых пляцоўках прайшлі канцэрты. Гасцямі фестывалю сталі вядомыя спевакі і музыканты.**

**НА ЗДЫМКАХ: на канцэртнай пляцоўцы фестывалю "Маладзечна-94"; уладальніца Гран-пры фестывалю "Маладзечна-94" магілёўчанка Наталля КУДРЫНА.**

# Янка ЗАПРУДНІК:

# "Я ЗНАЙШОЎ СЭНС ЖЫЦЦЯ Ў СЛУЖБЕ СВАЙМУ НАРОДУ"

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

Да гэтага часу большасць нашага грамадства ставіцца да замежнай інтэлігенцыі як да буржуазна-нацыяналістычнай...

-- Гэта правільная ацэнка.

-- ...Вы ж ставіцеся да нашай інтэлігенцыі як да савецкай...

-- Не, не абавязковка. Пачну з паняцця нацыяналізму. Тут дэфініцыя нацыяналізму спачварана ідэалогіяй,і тут ён абавязкова з адмоўным знакам. Нацыяналізм жа як палітычны спектр мае ў сабе шмат пазітыўнага, бо ў сваёй існасці нацыяналізм -- гэта пранятасць сваёй нацыяй. І калі я праймаюся сваёй нацыяй і развіццём сваёй нацыі, маю добрыя адносіны з суседзямі, то чаму я маю быць благі нацыяналіст? Вазьміце слоўнік Уэбстэра і тутэйшы слоўнік, і вы ўбачыце, што ў першым -- азначэнне нацыяналізму шырокае, у другім -- звужанае да адмоўнага. Рэчаіснасць наогул павінна ўспрымацца ва ўсіх ейных дэталях. Тое, як мы ставімся да рэчаіснасці на Беларусі, шмат у чым залежыць ад таго, як даны інтэлігент разумее асноўныя патрэбы і каштоўнасці. Але інтэлігенты ёсць розных колераў. Вось чытаю я артыкул мастака Андрэя Савіцкага ў "Рэспубліцы". Артыкул зняважлівы, дзе аўтар лье без ніякай аргументацыі бруд на Конана, Мальдзіса, іншых, каго я добра ведаю. Дзе ўсё ад пачатку да канца фальш. Дык які ён для мяне інтэлігент? А гэткая публіцыстыка, дарэчы, адлюстроўвае ў ладнай меры і дзяржаўную палітыку.

-- Адметнай рысай сённяшняга дня павінна быць паяднанне ўсёй беларускай нацыі ў імя агульнанацыянальных інтарэсаў. Ці магчыма яно?

-- Еднасць сёння патрэбная і магчымая. Яна магчымая, дзякуючы здольнасці прыехаць сюды, на Бацькаўшчыну. Мы шчаслівыя, што дачакаліся магчымасці кантакту. Вельмі важна, што мы можам сустракацца, каб паразмаўляць, пакрытыкаваць, паспрачацца і выслухаць іншы бок. Цяпер у нас шмат новых клопатаў і балячак. Мы не развяжам усіх праблем, але пэўна да чаго-небудзь дагаворымся і знойдзем паразуменне. Далучэнне дыяспары да сваёй Радзімы -- з'ява вельмі радасная і неабходная. Часам здалёк нам больш бачны вашы праблемы. Беларусь -- гэта тое, што нам усім баліць, і мы будзем шукаць нейкага супольнага выйсця.

-- Дык што вам, беларусу, які жыве ў Амерыцы, кідаецца ў вочы тут перш-наперш?

-- Шмат што за апошні час тут змянілася да лепшага. Вось я ў рэдакцыі газеты, якая нясе цяпер ідэю дзяржаўнасці, і сёння газета нам вельмі падабаецца. Праўда, цяпер шмат што ўскладнілася, асабліва ў эканоміцы жахлівае становішча. Але больш уражвае тое, што застаецца пакуль нерухомым, -- гэтакая духовая руіна, якую я бачу тут на кожным кроку. Гэта хлепаніна, абыякавасць, запушчанасць нават там, дзе не патрэбна ніякіх фондаў ці бюджэту, дзе патрэбна проста быць акуратным. Душа беларуса зруйнавана. Няма агульнага адчування і патрэбы прыгажосці. Маленькія дзеткі бачаць гэтую няхлюйнасць і прызвычайваюцца да яе, падрастуць -- і самі будуць рабіць на цяп-ляп. Прыязджаю я ў Мір у **мастацкае (!)** вучылішча і бачу, як будынак неахайна памаляваны. Двор зарос быллём. Памятаеце ў Арсеннёвай: "Пальном і быллём параслі нашы нівы"? Больш таго, у вучылішчы недахоп матэрыялаў для працы, дык яны, даруйце, вандалы, высякаюць у парку каштоўныя дрэвы, стогадовыя дубы, каб здабыць гэты матэрыял. Чалавек без патрыятычнага пачуцця будзе дзікуном. Важна, каб людзі ўсвядомілі пазьнякоўскую формулу: сёння нас можа выратаваць толькі беларускі патрыятызм. Калі чалавек будзе мець пачуццё гонару, гордасці за сваё, можа тады і ён зробіць нешта, каб прыбраць гэты бруд, хлам, што відзён навакол...

-- Як жа выхаваць гэтае пачуццё годнасці? Самасвядомасць? Ці ёсць шанцы ў беларускага народа стаць сапраўды на дзяржаўную аснову, адбудавацца і адрадзіцца як паўнавартасная нацыя?

-- Шанцы ёсць, але праграма гэта вялікая і доўгатэрміновая.

Пачынаць тут патрэбна ад самога мыслення. Давайце вернемся на пачатак XVIII стагоддзя. Чалавек -- прадукт гістарычных працэсаў. У канстытуцыі Рэчы Паспалітай 1791 года не ўзгадваюцца ані летувісы, ані беларусы. І самое паняцце "беларускасці" было звужана: беларускае разумелася як сялянскае, мужыцкае. Гэты стэрэатып захаваўся і да сённяшняга дня. Я ўжо пісаў пра кнігу спадара В.Бандарчыка "Сям'я і сямейны быт беларусаў" (Мінск, 1990 год), дзе ён і яго калегі разглядаюць беларускую сям'ю на працягу стагоддзяў, як выключна **сялянскую**. І тут само сабой узнікае пытанне: хіба ўсё насельніцтва Беларусі складаецца і складалася толькі з адных сялян?

-- У адной з вашых прац напісана, што адлаведна перапісу 1897 года з 153 тысяч прадстаўнікоў дваранскага саслоўя 43,3 працэнта (65 тысяч чалавек!) назвалі роднай мовай беларускую.

-- Факт вельмі цікавы. Я ўзяў яго ў Паўла Церашковіча. Дарэчы, у тыя часы паняцце беларускасці не было такім дзяржаўнасным, як сёння. Тып палітычнага беларуса яшчэ да канца не вывучаны, не асэнсаваны. Мы самі сябе абакралі і стаім у роспачы самаабшарпаныя. І ўсё чакаем. Такая ціхая беларуская завадзь: пачакаем яшчэ да заўтра, можа што зменіцца; пасядзім на плоце, паглядзім, у які бок скочыць. Быў я сёння ва ўладыкі Філарэта. У яго капліцы вісяць дзве іконы. На адной -- усе беларускія святыя, а на другой -- святыя, імёнамі якіх названы цэрквы на Беларусі. Я пытаюся: "Чаму на другой іконе няма ніводнага святога з першае іконы?" Заканамернае пытанне? Не нацыяналістычнае пытанне?

Сёння мы мусім мысліць іншымі катэгорыямі. У нас ёсць перш-наперш свая дзяржава. Ёсць інфраструктура беларускай дзяржаўнасці. Ёсць палітычныя партыі. Хутка будзем выбіраць прэзідэнта. Ёсць парламент. Сёння ёсць моладзь, хоць яе і не шмат, якая стаіць на пазіцыі адраджэння. Ёсць наша прызнанне ў свеце, мы маем членства ў ААН. Ёсць спрыяльная тэндэнцыя развіцця ў свеце. У амерыканскіх газетах, калі тлумачыцца палажэнне ва Усходняй Еўропе на схематычнай карце, дзе раней была белая пляма або было напісана "Russia", сёння ўжо пазначана "Belarus". Такі вось дробны выпадак інфармацыйнага патоку, дзе Беларусь у моц існавання дзяржавы ўзгадваецца прынамсі хоць адным словам. Нашы прадстаўнікі запрашаюцца на міжнародныя канферэнцыі. Намі цікавяцца. Мяне запрасілі выкладаць курс гісторыі і палітыкі Беларусі ў Калумбійскім універсітэце якраз у моц існавання гэтай дзяржавы, у моц патрэбы разабрацца, якія тут адбываюцца працэсы.




-- Нягледзячы на ўсе тыя прыярытэты, што вы пералічылі, у большасці нашых грамадзян, відаць, захавалася імкненне "быть навеки с Россией". Пра гэта сведчыць і дамова ўрада Беларусі з Масквой аб аб'яднанні грашовых сістэм.

-- Да гэтага часу Беларусь на 90 працэнтаў залежыць ад энерганосьбітаў Расіі. Індустрыялізацыя Беларусі праводзілася сведама з Масквы з разлікам, што эканоміка Беларусі ўбудуецца ў гэтую вялікую імперыю. Гэтай залежнасці немагчыма пазбавіцца адразу, але гэта можна зрабіць паступова. Відавочна, для некаторых лягчэй, калі ёсць дзядзька ў Маскве, які скажа, што рабіць, і тады галава не баліць. Гэтае імкненне здаць адказнасць і назіраем мы сёння ва ўрадзе. Людзі ж павінны зразумець, што незалежнасць не азначае ізаляцыі або варожасці да рускіх і нежадання супрацоўнічаць. Гэта толькі азначае, што трэба ўстаць на поўны рост, выпрастаць свой хрыбет і глядзець, як роўны на роўнага. Мы жывём у цывілізацыі, дзе адзін з галоўных прынцыпаў -- прынцып роўнасці ў сэнсе права кожнага мець месца пад сонцам. Гэта нейкая недарэчнасць, калі малая нацыя хоча быць вялікай праз далучэнне да большае. У беларускім грамадстве назіраецца нейкае маленне на рускую мову. Беларускай мовы ў Менску за рэдкім выключэннем сёння я не чую...

-- Нас ад яе адвучвалі доўгія гады.

-- Так, але гэта хваравіты стан душы, калі чалавек сваё топча ў балота, а шукае нейкай вышэйшасці ў суседа. Я сам люблю рускую мову, шмат чытаю на ёй, але ў сям'і са сваімі дзецьмі размаўляю па-беларуску. Беларусы хварэюць комплексам ніжэйшасці пры адначасовым неўсведамленні гэтага комплексу.

-- Вы прыехалі напярэдадні выбараў прэзідэнта Беларусі. Каго вы бачыце першым прэзідэнтам і як наогул ставіцеся да інстытута прэзідэнцтва ў Беларусі?

-- Моцная рука патрэбна. Грамадства ў раздродзе. Ніхто не ведае дакладна, як вывесці эканоміку з занядбаду, што рабіць з прыватызацыяй, фермерствам, калгасамі. Але ж да моцнай рукі патрэбна разумная галава і чулае да патрэб свайго народа сэрца, каб была прывязанасць да пэўных фундаментальных вартасцяў. Каго бачу прэзідэнтам? Мой розум і сэрца з Пазьняком. Калі б прыйшоў Пазьняк, то гэта азначала б, што народ, выбаршчыкі зразумелі, што па старой формуле выйсця мы не знойдзем і што выхаду ў цывілізаваны свет трэба шукаць у новым накірунку.

-- Спадар Запруднік, мы шмат сёння з вамі разважалі пра Беларусь і беларусаў, пра тое, што апошнім часам усё часцей чуецца гэткае бурклівапесімістычнае: беларусы нічога не варты як нацыя. Мяркую, не палічыце пытанне нетактоўным ці недарэчным. Дык як жа вы ставіцеся да беларусаў? Ці любіце свой народ?

-- Калі б я не любіў свайго народа, то я не быў бы тут кожны год па некалькі разоў. Я пакінуў Беларусь семнаццацігадовым хлопцам. У Нямеччыне скончыў беларускую гімназію і ад таго часу я ўвесь у беларускім руху. Я ажаніўся з беларускай дзяўчынай (нябожчыцай ужо), мы шанавалі родную мову, усё беларускае, . Я не магу быць інакшым. Так, я амерыканскі грамадзянін, прафесар, гісторык. Амерыка мне дарагая сваімі магчымасцямі, духам, краявідамі. Але эмацыянальны свет закладваецца да семнаццаці гадоў, і гэта ўва мне ляжыць моцна і непарушна. Я знайшоў сэнс жыцця ў службе свайму народу, сваёй Бацькаўшчыне, беларускай справе. Гэта надае майму жыццю дамэтнасць і прыносіць духовае задавальненне. За пяцьдзесят гадоў аб'ехаўшы вакол зямлі, я вярнуўся да сваёй крыніцы, да сваіх родных і чуюся вельмі шчаслівым.

**Гутарыла Таіса БАНДАРЭНКА.**

**Фота Віктара СТАВЕРА.**

---

## ПІСЬМЫ ЗБЛІЗКУ

# ДАПАМАГЧЫ ФЕРМЕРУ СТАЦЬ НА НОГІ

У РАСІЙСКАЙ імперыі бальшавікі праявілі сваю дзейнасць у захопе ўлады, скарыстаўшы на той час палітычны крызіс. Каб гэтую ўладу захапіць і ўтрымаць, быў кінуты імі лозунг: "Зямля сялянам, фабрыкі, заводы рабочым", але ж працоўны люд нічога не атрымаў. Праўда, адразу пасля грамадзянскай вайны па эканамічных прычынах было нейкае адступленне ў бок рынку, калі сяляне маглі свабодна працаваць на сваёй зямлі. Ды гэта было нядоўга, мо 5--6 гадоў. Па-першае, каб аддаць зямлю ва ўласныя рукі, у бальшавікоў не было запланавана, а па-другое, яны зразумелі: навошта аддаваць сялянам зямлю ва ўласнасць, калі гэтыя сяляне могуць на ёй працаваць бясплатна, толькі над імі ўзняць даўжэйшую плётку, што потым і адбылося. Я пра гэта яшчэ гавару і таму, каб неяк у большай часткі нашага грамадства развянчаць веру ў камуністычных правадыроў і камуністычную ідэалогію. Бо такая несвядомасць стрымлівае працэс адраджэння нашай дзяржавы, нашай Бацькаўшчыны.

Вяртаючыся да сучасных гаспадарак, хацеў бы сказаць, што і цяпер яшчэ людзей заводзяць у зман, называючы калгасы "калектыўнай гаспадаркай". Дык калі гэта калектыўная ўласнасць, то няхай тады кожны пры выхадзе з калгаса возьме сваю долю. Але ж не, атрымае дулю з трох пальцаў.

А вось паглядзіце, якую барацьбу вядуць мясцовыя ўлады, старшыні калгасаў, дырэктары саўгасаў з людзьмі, што хочуць атрымаць зямлю для фермерскай гаспадаркі. Нават тыя законы, якія ёсць, не дзейнічаюць. Тут яшчэ трэба ўлічваць і псіхалагічны стан, і наогул несвядомасць большай часткі грамадства як на вёсцы, так і ў горадзе, а з несвядомымі людзьмі лепей весці барацьбу. У гэтым ёсць яшчэ і свае прычыны, бо інфармацыя ад мясцовых улад на вёсцы ідзе ў карысным напрамку для чыноўнікаў гэтых раёнаў. Ёю запоўнены і раённыя газеты, і такія газеты, як "Советская Белоруссия" і "Белорусская нива" -- гэта выданні посткамуністычнага накірунку.

Зыходзячы з вышэйсказанага, хацеў бы прапанаваць, каб неяк задаволіць і аб'яднаць інтарэсы людзей, якія жадаюць апрацоўваць зямлю сваімі рукамі ці маюць сваю жывёлагадоўчую ферму або іншую гаспадарку, і забяспечваць свае фінансавыя патрэбы, неабходна ствараць "сельскагаспадарчыя асацыяцыі". Іх спонсарамі маглі б быць прыватныя фірмы, акцыянерныя таварыствы ці якія іншыя арганізацыі. Надзяліць іх трэба адлаведнымі правамі. Асноўнай задачай такіх асацыяцый будзе дапамагаць умацаванню фермерскіх альбо індывідуальных гаспадарак. Прыкладам такіх гаспадарак зацікавіліся б іншыя, і гэта дапамагло б адраджэнню эканамічна моцнай вёскі.

**Мікалай КАРАЛЬКОЎ,**
**член Беларускай сацыял-дэмакратычнай грамады.**

# НЕВЯДОМАЯ ВАЙНА

## АНТЫБАЛЬШАВІЦКІ РУХ НА БЕЛАРУСІ (1917–1925 гады)

ГЭТУ ВАЙНУ даследчыкі на Захадзе называюць "невядомай". І хоць яна мела каласальны размах у розных кутках, у тым ліку і Савецкай Беларусі, яе гісторыя нам мала вядомая. Дакладней, штосьці ведаем, але ў крывым люстэрку савецкай гістарыяграфіі масавы паўстанцкі рух сялян супраць бальшавізму выглядаў звычайнай крымінальшчынай з палітычнай афарбоўкай -- "палітычным бандытызмам", "кулацкай", "кулацка-шляхецкай контррэвалюцыяй". Не дзіўна: гісторыя паўстанцкага руху стваралася пераможцамі ці па іх указанню.

Нарэшце мы перасталі называць бандытызмам масавую барацьбу сялян супраць палітыкі "ваеннага камунізму" і карных метадаў кіравання вёскай, а ўзброены пратэст асноўнай масы насельніцтва супраць дзяржаўнага прыгнёту зводзіць да крымінальных і разбойных дзеянняў. Неабходна таксама адмовіцца і ад надакучлівага стэрэатыпу ў ацэнцы сялянскіх выступленняў як кулацкіх.

"Заможныя сяляне" змагаліся за сваё існаванне і разам з тым адстойвалі карэнныя эканамічныя інтарэсы ўсяго сялянства. Антонаўскі рух на Тамбоўшчыне, махноўскі -- на Украіне, басмачоўскі -- у Сярэдняй Азіі былі народнымі сялянскімі войнамі не толькі супраць улады, але і за права жыць па-свойму, за сваю радзіму, вялікую і малую.

Гісторыкі сёння аперыруюць тэрмінамі "малая грамадзянская вайна", "трэцяя сялянская рэвалюцыя".

Нашы суседзі, летувісы, часцяком ужываюць тэрмін -- рэзістэнцыя і маюць на ўвазе тое, што і генерал дэ Голь, з вуснаў якога ўпершыню ён прагучаў у Лондане 23 чэрвеня 1940 года. Рэзістэнцыя -- гэта супраціўленне жыхароў акупаванага краю захопнікам. Гэта вывы памкненняў заняволенага народа, яго жаданне абараніць сваю свабоду. Лічу, што гэты тэрмін, хаця ён і з'явіўся ва ўжытку праз дваццаць гадоў пасля падзей, аб якіх далей пойдзе размова, на мой погляд, добра адлюстроўвае адносіны паміж насельніцтвам Беларусі і бальшавікамі, якія трапілі сюды ў выніку падзей першай сусветнай вайны ці потым разам са славутымі чырвонымі камандзірамі Тухачэўскім, Убарэвічам, Путнам і інш. "Чужынцамі" і "прышлымі" былі яны для беларусаў. Чырвоная Армія для беларусаў таксама была арміяй чужынцаў. Шматлікія дэзерціры з яе радоў -- таму сведчанне. Для веліжскіх і слуцкіх паўстанцаў, мяцежнікаў Міншчыны, зеленадубцаў, балахоўцаў -- усіх, каго яднала высакародная ідэя ўтварэння незалежнай Беларускай дзяржавы, чырвоныя былі акупантамі. Таму супраціўленне набывала ўсё больш упарты і арганізаваны характар.

Прычыны паўстанцкага руху ў паслякастрычніцкай Беларусі шматлікія і разнапланавыя. Папершае, ад ваеннага заняпаду, жахаў бальшавізму людзі бачылі выйсце ў незалежнасці і дзяржаўнай самастойнасці. У тыя часы, як і зараз, беларусы стаялі на раздарожжы: якой сцежкай ісці -- што вядзе ў Еўропу, на захад, ці назад, у Расію, якая набыла чырвоны колер. Дакументальныя крыніцы сведчаць: былі прыхільнікі і аднаго, і другога напрамку, але былі і трэція -- "ні з Польшчай, ні з Масквой, будаваць сваю дзяржаву". Такі настрой адлюстроўвае адозва, з якой звярнуўся Юрка Лістапад да сваіх землякоў -- жыхароў Случчыны ў жніўні 1925 года: "Сяляне-браты родныя! Абрыдла нам панаванне чужынцаў: камуністаў і паноў. У часе будучай вайны (маецца на ўвазе сялянскае паўстанне. -- **Н.С.**) нам трэба паўстаць і збудаваць сваю дзяржаву -- Беларусь. Няхай жыве вольная Беларусь".

Па-другое, да большасці насельніцтва -- сялянства -- савецкая ўлада выбрала палітыку нястрымнага насілля і гвалту, самавольства. Бальшавікі імкнуліся разбурыць усё, што сялянства назапашвала стагоддзямі: традыцыйны лад жыцця, гаспадарання, мыслення і духоўную культуру. Тагачасныя ўладары настойліва падкрэслівалі "ідэалагічную другасортнасць" сялянства. Таму мажліва, з самага пачатку было ўзаконена бессаромнае рабаванне вёскі. Аграрная "рэформа" бальшавікоў не была вынікам волі і пажаданняў сялянства, як гэта шмат гадоў сцвярджала савецкая гістарыяграфія. Вельмі хутка дэкрэт аб зямлі змяніўся харчразвёрсткай, потым непасільным харчпадаткам, канфіскацыяй маёмасці, натурпастаўкамі і г.д., што прывяло да голаду ў шэрагу мясцін. Праўду казалі тыя сучаснікі, хто тады сцвярджаў, што дэкрэт аб зямлі "пагражае жахлівым эканамічным крахам". Як у ваду глядзеў Язэп Лёсік, які сказаў гэтыя словы. Людзей пужала адсутнасць нават бачнасці законнасці. У вёсцы панаваў проста разбой. Калі селянін не жадаў аддаць набытае за ўсё жыццё, яму пагражалі ўсе кары ваеннага часу, аж да расстрэлу ўключна. Як прыклад, працытую загад N 4 Харчовага камітэта ССРБ, які падпісалі старшыня СНК А. Чарвякоў і камісар па землеўпарадкаванню У. Ігнатоўскі: "...граждане, которые будут противодействовать проведению "недели продовольствия" (што прадугледжвала масавае адабранне харчу. -- **Н.С.**), будут немедленно арестовываться, имущество их будет конфисковано". Загад N 5 ужо канкрэтызаваў пакаранні: "...Всякие отказы от немедленного выполнения разверстки гражданами деревень будут считаться неподчинением Советской власти и беспощадно караться. Председатели сельских Советов обязаны немедленно арестовывать таковых и направлять в Минск для заключения в тюрьму... В случае уклонения той или иной деревни от разверстки немедленно арестовывать председателей сельсоветов (вось так!), контрреволюционные элементы, каковых направлять в тюрьму в Минск. В случае дальнейшего упорного уклонения от выполнения продразвёрстки, приступить к немедленной конфискации продуктов и скота, а также лишить граждан прав на получение продуктов городского производства..." Трэба заначыць, што апошняя пагроза была пустым гукам. Вёска амаль нічога не атрымлівала ад разбуранага вайной горада. "За нож аддаў карову", -- скардзіўся ў валасны рэўком селянін вёскі Ненеўшчына Барысаўскага павета.

Не меншых намаганняў патрабавала ад улад спагнанне так званага фіксаванага харчпадатку. Сялянства лічыла, што не ў стане выканаць яго. Цяжка прыходзілася тым, хто на месцах выбіваў падаткі. Так, камісар па харчаванню Барысаўскага павета быў вельмі патрабавальны да сваіх падначаленых: (цытую на мове арыгінала) "...налог нужно выполнять ценой каких бы то ни было усилий и жертв... Все должны быть на ногах день и ночь и твердо, без малейшей слабости осуществлять руководство. Никаким просьбам, ни слезам не верить. Всех просящих о снижении налога немедленно сажать под арест. Пусть будут жертвы...". Для аператыўнага спагнання падатку былі створаны харчовыя ўдарныя тройкі, якія патрабавалі: "Железной рукой взыскивать продналог!".

Не грэбавала паборамі і славутая Чырвоная Армія. Па ўсёй Беларусі сяляне скардзіліся на чырвоных рабаўнікоў. Сяляне мястэчкаВаласевічы (Барысаўскі павет) у кастрычніку 1920 года даслалі ў павет данясенне: "...па вёсках раз'язджаюць атрады, якія быццам шукаюць дэзертыраў, тэрарызуюць насельніцтва, вытрасаюць са скрыняў лепшыя рэчы... Чырвонагвардзейскі атрад у 60 чалавек з 2-мя кулямётамі быццам бы для барацьбы з бандытамі абрабаваў усю вёску, не пакінуў ёй нічога..." Вытрымка з загада N 125 ад 2 лістапада 1920 года па Бабруйскаму рэўкому таксама сведчыць аб тым, што ўжо апісаныя факты і тут мелі месца: "...из разных местностей, где проходит фронт, поступают сообщения о бесчинствах, творимых проходящими частями Красной Армии, которые самочинно производят реквизиции и конфискации, избивают население..." М. Тухачэўскі вымушаны быў звярнуць увагу (далей цытую яго загад), "что различные отряды, приходившие в тот или иной район, терроризовали не только население, но и местный исполком и его органы", і патрабаваў "інфармаваць ЧК". Тут трэба падкрэсліць, што на занятых Чырвонай Арміяй тэрыторыях Беларусі панавалі вайскоўцы. З органамі савецкай улады яны не цырымоніліся, часцяком на іх не звярталі ўвагі. Як сведчаць дакументы, яны назначалі і знімалі старшыняў выканкомаў, арганізоўвалі першыя камуны.

Аднак, на думку М. Тухачэўскага, заслугоўвалі суровага пакарання не тыя, хто здзекаваўся з вяскоўцаў, а тыя, хто не пажадаў служыць у арміі, "несущей на своих штыках освобождение всему трудовому народу". Мясцовыя жыхары хутка пераканаліся, што Чырвоная Армія паспяхова вызваляе ад маёмасці і "излишков" харчавання, можа вывесці з двара апошняга каня. Лозунгі "Да здравствует Советская Россия", "Да здравствует Советская Польша", "Да здравствует всемирная революция" былі абсалютна чужымі і незразумелымі для большай часткі беларускага насельніцтва. Дэзерцірства мела ў Беларусі каласальныя памеры. Гэта была адна з самых і распаўсюджаных форм непадпарадкавання і супраціўлення савецкай уладзе. І гэта, нягледзячы на тое, што ва ўсіх гарадах і мястэчках Беларусі былі расклееныя загады, якія абяцалі самыя жорсткія пакаранні за дэзерцірства ці ўхіленне ад прызыву, напружана працавалі камісіі па барацьбе з дэзерцірствам (камдэзы). Улада перыядычна аб'яўляла тыдні добраахвотнай яўкі. Загад N 1130 арміям Заходняга фронта ад 14 чэрвеня 1920 года за подпісам Тухачэўскага і Смілгі пужае канфіскацыяй маёмасці шматлікія катэгорыі насельніцтва: дэзерціраў, іх сем'і, тых, хто укрывае дэзерціраў ці іх маёмасць. Загад, з аднаго боку, не спрыяў, мякка кажучы, развіццю добрасуседскіх адносін, таму што простае спачуванне аднавяскоўцу магло прывесці да згубы нажытага. З другога боку, матэрыяльна стымуляваў тых, хто вёў упартую барацьбу з дэзерцірамі, бо згодна з пунктам загада N 3 "все конфискованное у дезертиров, их семей и укрывателей имущество, немедленно передавалось семьям честных красноармейцев в другие волости и уезды".

Савецкая гістарыяграфія доўгі час сцвярджала, "што насельніцтва паўсямесна варожа адносілася да кулацкіх банд". Але М. Тухачэўскі ў свой час зрабіў іншыя высновы: "1. ... надлежит иметь в виду, что бандитизм распространен по всей территории округа... имеет успех благодаря хорошему укрытию -- лесам, болотам или (што галоўнае) сочувствию местного населения; 2. Действия отрядов внутренней службы, состоящих из местных жителей, не приводили к нужным результатам. Успешно бороться с бандитизмом может только часть, не имеющая в своих рядах местных жителей". Як бачым, перад тым як расстраляць мяцежнікаў Кранштата, падавіць Антонаўскае паўстанне на Тамбоўшчыне, М. Тухачэўскі меў неблагую практыку на Беларусі.

Арганізатарамі антыбальшавіцкага руху на Беларусі выступілі палітычныя партыі. Сярод іх -- Беларуская партыя сацыялістаў-рэвалюцыянераў (БПС-Р), Беларуская сялянская партыя "Зялёнага дуба" ("Зялёны дуб"), інш.

БПС-Р узнікла летам 1918 года, у яе ўвайшлі былыя дзеячы Беларускай Сацыялістычнай Грамады (БСГ), супрацоўнікі рэдакцыі "Наша ніва". Партыя аказвала моцны ўплыў на сялянства, яе падтрымлівала большасць беларускіх настаўнікаў. Эсэры стаялі на пазіцыях незалежнасці і недзялімасці Беларусі ў яе этнаграфічных межах, арыентаваліся на Раду БНР, якую лічылі адзіным нацыянальным прадстаўніком беларускага народа.

БПС-Р была адзіным з арганізатараў вядомага Слуцкага паўстання. Большасць Нацыянальнага камітэта Случчыны, а потым Прэзідыума Слуцкай Рады, выбранай з'ездам Случчыны 15–16 лістапада 1920 года, былі эсэры, сярод іх У. Пракулевіч, П. Жаўрыд, В. Русак, М. Асвяцімскі і інш.

Дапамогу слуцкім паўстанцам аказваў і "Зялёны дуб". Гісторыя гэтай партыі, лепш сказаць -- палітычнай арганізацыі -- яшчэ мала вядомая. Яна была створана па тыпу ўзброенай палітычнай арганізацыі ўвосень 1920 года. На чале яе стаяў Вячаслаў Адамовіч (малодшы), партыйная мянушка Дзяргач.

**Ніна СТУЖЫНСКАЯ,**
**кандыдат гістарычных навук.**

**(Заканчэнне будзе).**

# НАВОШТА НАМ ПАН?

Паважаны рэдактар!

У гэтым годзе пачаў атрымліваць вашую газету, за што шчыра дзякую. У часы савецкае ўлады спатыкаўся з "Голасам Радзімы". Яна, аднак, была пісаная ў зусім іншым духу і на двох мовах. Прыемна чытаць цяперашняе выданьне, бо яно пісанае поўнасьцю ў нашай роднай мове і больш патрыятычным духу.

Наведваю Беларусь ад 1973 году. Мая астатняя візыта была ў прошлым годзе -- на З'ездзе беларусаў сьвету. Прыемна было быць прысутным на гэтым славутым з'ездзе, пабачыць Менск, раскрашаны нашымі сьцягамі і ў рэдкасьці нашай славутай пагоняй. Прыемна было пачуць патрыятычныя прамовы і бачыць радасьць на тварах прысутных дэлегатаў, браць удзел у з'ездзе ў сталіцы незалежнай Беларусі. Сказаўшы гэта, на жаль, на вонкі новых зьменаў не бачыў.

Паміма, што Беларусь прайшла два гады, як сталася незалежнай дзяржавай, старая савецкая сыстэма надалей пануе. У Брэсце тыя самыя пагранічнікі, якія былі пры саветах, ужываюць ва ўсім толькі рускую мову. У гарадах і вёсках назовы вуліц і местаў як былі, так і засталіся.

У гарадскіх управах ужываецца толькі руская мова. Ці ўжо не час над гэтым усім задумацца і пачаць сваю родную мову больш шанаваць і між насельніцтва пашыраць. Прыкра, што Беларускі ўрад сябе больш не рэклямуе тут на Захадзе. Да гэтае пары тут у Англіі нічога не ўспамінаецца пра Беларусь у прэсе ці тэлевізіі. Як бачу з "Голасу Радзімы" N 16, наш урад надалей імкнецца, каб нашыя эканамічныя праблемы Масква развязвала. Як то кажа пасловіца: "Пану мужык прадаў сваю гаспадарку і яго парабкам стаўся". Ці ж мы, беларусы, так незарадныя, што патрабуем "пана", каб ён намі гаспадарыў?

З пашанай

**С. БУДКЕВІЧ.**

Англія.



Орша. Прыгожы цэнтр горада ўлетку.

Фота **М. ВІКТАРАВА.**

57

У праекце канстытуцыі Мікіты Мураўёва прадугледжваўся федэратыўны лад Расіі. Імперыю павінны былі ўтвараць асобныя дзяржавы, якія, аднак, уяўлялі сабой не што іншае, як тэрытарыяльна-гаспадарчыя адзінкі па ўзору паўночнаамерыканскіх штатаў. Літоўска-беларускія землі планавалася ўключыць у дзве дзяржавы: Заходнюю са сталіцай у Вільні і Дняпроўскую са сталіцай у Смаленску. Мураўёў лічыў Расію рускай дзяржавай і нацыянальнага пытання фактычна не ўзнімаў.

**ВОДГУКІ ДЗЕКАБРЫЗМУ НА ЛІТВЕ-БЕЛАРУСІ.** Сярод мясцовых інтэлектуалаў таго часу яшчэ не было поўнага разумення непрымальнасці для нашага народа дзекабрысцкіх шавіністычных праграм. Яны нават знаходзілі падтрымку ў асяроддзі спаланізаванай шляхты заходніх літоўска-беларускіх зямель ды рускіх афіцэраў. Менавіта яны і стварылі ў 1825 годзе на Беласточчыне тайную арганізацыю ў падтрымку дзекабрыстаў. Гэта арганізацыя складалася з "Таварыства ваенных сяброў", у якое ўваходзілі афіцэры Асобнага Літоўскага корпуса, "Таварыства згоды", якое аб'ядноўвала мясцовых паноў, чыноўнікаў і настаўнікаў, і "Таварыства заран", якое было створана яшчэ ў 1823 годзе вучнямі Беластока і Свіслачы. Праўда, частка заран захоўвала самастойнасць. Галоўная ўлада належала беластоцкаму шляхціцу, былому філамату Міхалу Рукевічу. Яго бліжэйшымі памочнікамі былі капітан Канстанцін Ігельстром і паручнік Аляксандр Вягелін. Арганізацыя мела

58

сувязь з польскім "Патрыятычным таварыствам" і аб'яднаннямі рускіх дзекабрыстаў.

24 снежня 1825 года ў мястэчку Бранск, што пад Беластокам, члены "Таварыства ваенных сяброў" сарвалі прысягу піянерскага батальёна новаму цару. Спроба далучыць да сябе суседнія вайсковыя часці не мела поспеху. Кіраўнікі арганізацыі былі арыштаваны і сасланы ў Сібір на Нерчынскія руднікі, дзе працавалі і жылі разам з іншымі дзекабрыстамі Расіі.

**ДЗЕКАБРЫЗМ У НАШЫМ ЛЁСЕ.** Такім чынам, пасля вайны 1812 года ў Расіі назіраўся ўздым рэфармісцкага руху. Рускія дваране-рэфарматары не маглі сваімі імперскімі амбіцыямі і няўвагай да Літвы-Беларусі прывабіць літоўска-беларускую шляхту, якая заставалася ў сферы ўплыву польскага вызваленчага руху і звязвала з ім больш спрыяльныя для свайго краю перамены. Няўдалае выступленне дзекабрыстаў толькі ўзмацніла ўладу рэакцыі і рабіла перамены ў імперыі да лепшага ў бліжэйшы час нерэальнымі. А гэта яшчэ больш зблізіла беларусаў з палякамі і падштурхнула іх разам у бок узброенай барацьбы за вызваленне з царскай няволі.

# 6. ПОЛЬСКА-РУСКАЯ ВАЙНА 1831 ГОДА

1794, 1812 і нарэшце 1831 год.. Ужо каторы раз польскі народ падымаўся на вызваленчую

59

барацьбу. Але ці была гэта барацьба вызваленчай для Літвы-Беларусі?

## 6.1. Выспяванне і ход вайны

**ПАЛІТЫКА АДРЫВУ ЛІТВЫ-БЕЛАРУСІ АД ЦАРСТВА ПОЛЬСКАГА.** Новы імператар Мікалай І быў выхаваны на прынцыпах рускага мілітарызму, абсалютнага самаўладдзя і шавінізму. Таму ён не мог захоўваць лаяльныя адносіны да непакорных палякаў. Царства Польскае (канстытуцыя, сейм, войска) у Пецярбургу цярпелі толькі таму, што таго патрабавала венскае пагадненне еўрапейскіх манархаў. Аб далучэнні да Царства Польскага Літвы-Беларусі не магло быць ніякіх надзей. Не дапамагало і тое, што палякі мелі ў асобе Канстанціна, брата цара і намесніка Польшчы, уплывовага абаронцу. Каб паказаць, што паміж Царствам Польскім і літоўска-беларускімі землямі не можа быць нічога агульнага, Мікалай І нават польскія адзнакі і афарбоўку на мундзірах Літоўскага корпуса на Літве-Беларусі замяніў на рускія.

**НЯЎВАЖЛІВАСЦЬ ПОЛЬСКІХ НЕЗАЛЕЖНІКАЎ ДА ЛІТВЫ-БЕЛАРУСІ.** Вялікае абурэнне выклікала ў рускага цара падтрымка польскім грамадствам дзекабрыстаў. Але самаўладна расправіцца з загаворшчыкамі ў Польшчы Мікалай І не мог. Створаны ж пры сейме асобны суд апраўдаў удзельнікаў патаемных польскіх арганізацый, якія абвінавачваліся ў тым, што ведалі аб загавары

60

дзекабрыстаў, але не данеслі аб ім рускаму ўраду. І незадаволены цар нічога, акрамя пагроз, не мог зрабіць. Разгром дзекабрыстаў не запужаў радыкальна настроеных польскіх патрыётаў. Яны працягвалі падрыхтоўку да ўзброенай барацьбы за поўную незалежнасць ад Расіі.

У далейшым планавалася ўстанавіць польскую рэспубліку і адмяніць прыгон. Гэтыя погляды, аднак, не падзяляла большасць польскай арыстакратыі. Кансерватары абмяжоўваліся мерамі дыпламатычнага ўздзеяння на царскі ўрад, у тым ліку і з удзелам дзяржаў Заходняй Еўропы, адмаўлялі ўсялякія сацыяльныя рэформы і мірыліся з канстытуцыйнай манархіяй, якая б толькі сапраўды гарантавалася рускім царом. На чале радыкалаў стаяў прафесар гісторыі Іаахім Лялевель, лідэрам жа кансерватыўнай арыстакратыі быў колішні сябра Аляксандра І Адам Чартарыскі. Амаль што поўная супрацьлегласць праграм не перашкаджала дзвюм партыям дзейнічаць у адным агульным накірунку -- дамагацца ўзнаўлення былой Рэчы Паспалітай у межах 1772 года. Але пра Вялікае Княства Літоўскае гутарка пры гэтым не ішла. Самабытнага беларускага народа як бы не існавала. І гэта ўказвала на палітычную слепату польскіх лідэраў.

**АБВАСТРЭННЕ РУСКА-ПОЛЬСКІХ АДНОСІН.** Два наведванні Мікалаем І Варшавы з нагоды сваёй каранацыі польскім каралём (вясной 1829) і з нагоды адкрыцця чарговага сейма (вясна 1830) паказалі, што ніякіх уступак палякам з боку цара не будзе. Вайна Расіі з Турцыяй

Захар ШЫБЕКА

ГІСТОРЫЯ БЕЛАРУСІ Ў XIX - XX СТАГОДДЗЯХ

(РАЗДЗЕЛЫ З НЕНАДРУКАВАНАЙ КНІГІ)

61

(1828--1829) актывізавала палякаў, а ліпеньская рэвалюцыя 1830 года ў Францыі дала ім надзею на мажлівасць перамогі ў вызваленчай вайне. Рэвалюцыя перакінулася на Бельгію. Меркавалася, што рэвалюцыйнае полымя дакоціцца і да Польшчы. А таму, калі ў Варшаву прыйшоў царскі загад рыхтаваць польскую армію для ўціхамірвання Бельгіі, патрыёты не маглі больш цярпець.

**ВЫГНАННЕ РУСКІХ З ЦАРСТВА ПОЛЬСКА-** У ноч на 18 лістапада маладыя афіцэры і [illegible]ні варшаўскай школы падпрапаршчыкаў напалі на Бельведэр, прыгарадны палац намесніка Польшчы. Калі быў забіты расійскі генерал, усе супакоіліся, думаючы, што гэта Канстанцін. А вялікі князь тым часам паспеў уцячы ў мястэчка Вержба, куды пачалі збірацца часці рускай [illegible]міі і тыя палякі, якія засталіся вернымі цару. [illegible]шава, крэпасць Модлін, склады са зброяй [illegible]нуліся ў руках паўстанцаў. Узяўшы ўладу ў свае рукі, яны адправілі дэлегацыю ў Вержбу для перагавораў з Канстанцінам. Перад намеснікам цара было выкладзена два патрабаванні: прызнаць за Польшчай рэальныя правы незалежнай дзяржавы і далучыць да яе былыя землі Рэчы Паспалітай, гэта значыць і літоўска-беларускія. Вялікі князь вельмі здзівіўся і збянтэжыўся. Палітычныя патрабаванні яго так напужалі, што ён адмовіўся прадаўжаць перагаворы і ўцёк за межы Царства Польскага разам з рускімі вайсковымі атрадамі.

**ПЕРАМОВЫ.** У Варшаве быў створаны Часовы ўрад на чале з Адамам Чартарыскім. Адначасова працаваў сейм. Калі ў ім пачала браць

62

верх партыя вайны, 50-гадовы генерал Хлапіцкі аб'явіў сябе дыктатарам і накіраваў два пасольствы: адно ў Пецярбург, другое ў Заходнюю Еўропу. У Мікалая І польскія пасланнікі прасілі таго ж, што і ў Канстанціна. Цар абразліва адмовіў, але абяцаў амністыю, калі бунтаўшчыкі супакояцца. Пасля такога адказу ўплыў радыкалаў у Варшаве ўзмацніўся. Яны дабіліся таго, што сейм 13 студзеня 1831 года абвясціў аб пазбаўленні дынастыі Раманавых польскага каралеўскага пасаду, што было раўназначна аб'яўленню вайны Расіі.

**ХОД ВАЙНЫ І ЎДЗЕЛ У ЁЙ БЕЛАРУСАЎ.** У пачатку лютага 100-тысячная руская армія на чале з фельдмаршалам Дзібічам уступіла на тэрыторыю Царства Польскага. У вызваленчай арміі налічвалася каля 60 тысяч салдат. Яна чакала захопнікаў пад Варшавай. Дзве крывавыя бітвы на лютаўскім снезе пры Ваўры і каля Грохава паказалі перавагу рускіх і рашучасць палякаў змагацца да канца. Пралілася на польскія землі і беларуская кроў. У вызваленчую армію ўлілося і шмат ураджэнцаў Беласточчыны і Гродзеншчыны. Былі беларусы і ў рускім войску. Як і ў 1812 годзе, яны ваявалі адзін супраць аднаго.

Польскае войска адступіла за Віслу. Але і ў рускіх ужо не было сіл для праследавання і аблогі Варшавы. Армія прыпынілася на час вясновага бездарожжа. І тут здарылася эпідэмія халеры, якая выкасіла да трэці рускага войска. Вясной ваенная ініцыятыва на нейкі час перайшла да польскага войска, якое каля Дэмбе-Вельке атрымала даволі буйную перамогу. Але

63

неўзабаве 14 мая пад Астраленкаю рускія ўзялі рэванш і адкрылі сабе шлях на Варшаву. Армія Польшчы панесла вялікія страты, пасля якіх яна ўжо не магла аправіцца. Гераізм і самаахвярнасць моладзі не выратоўвалі, калі сярод генералаў не было згоды і бясспрэчнага лідэра, такога, як Касцюшка.

А Дзібіч, між тым, не спяшаўся кідацца на Варшаву. Армія была аслаблена. На Жамойці, Украіне і Літве-Беларусі дзейнічалі паўстанцы, якія перахоплівалі транспарты са зброяй, харчаваннем і пагражалі з тылу. Галоўнакамандуючы не дачакаўся наступнай бітвы, бо памёр ад халеры. Яго месца заняў Паскевіч, які раней вызначыўся ў захопніцкай вайне за Каўказ. Пачалося наступленне на Варшаву. З баямі, павольна, але безупынна рускае войска набліжалася да горада. Там пачалася паніка. Сярод кіраўнікоў абароны ўзніклі сваркі. Улада перайшла да памяркоўнага Крукавецкага, які і не імкнуўся абараняць Варшаву любым коштам. Чарговага галоўнакамандуючага Дэмбінскага, які здабыў сабе вялікую славу ў вайсковым наездзе на Жамойць і Літву-Беларусь, новы дыктатар пасадзіў у турму, а Лялевеля і Чартарыскага прыгаварыў да шыбеніцы, але тыя паспелі ўцячы за мяжу.

Калі рускія 19 жніўня аблажылі горад і прапанавалі здацца, то польскае кіраўніцтва згаджалася на гэта пры ўмове, што да Царства Польскага будуць далучаны землі былой Рэчы Паспалітай. Штурм пачаўся 25 жніўня, а праз два дні руская армія ўвайшла ў Варшаву праз Іерусалімскія вароты. Яшчэ з месяц рэшткі польскай арміі вялі супраціўленне, але ўрэшце

64

былі выціснуты на тэрыторыю Прусіі ўслед за сваім урадам. Як і ў 1794 годзе, палякі не дачакаліся дапамогі ад заходніх дзяржаў.

## 6.2. Паўстанне 1831 года ў Жамойці і Літве-Беларусі

**ПАДРЫХТОЎКА.** На падтрымку паўстанцаў усходніх зямель былой Рэчы Паспалітай у Варшаве ўскладаліся вялікія надзеі. У гэтыя раёны пасылаліся адозвы, спецыяльныя эмісары для кіраўніцтва барацьбой супраць Расіі. У Вільні ўзнік падпольны цэнтральны рэвалюцыйны камітэт, які падпарадкоўваўся Варшаўскаму часоваму ўраду і рыхтаваў паўстанне з мэтай далучэння Літвы-Беларусі і Жамойці да Польшчы. Камітэт, у сваю чаргу, меў па навакольных паветах камісараў, якія таксама рыхтаваліся да выступлення. Вялася агітацыя, назапашвалася зброя. Самымі непрымірымымі ворагамі царызму паказалі сябе ксяндзы і вучнёўская моладзь.

Рыхтаваўся захоп Вільні. Хвалявалася студэнцтва. Яго арганізацыя была настолькі законспіравана, што рэпрэсіі не дапамагалі. Кожны яе сябар ведаў толькі дваіх: таго, хто прымаў яго і каго прымаў ён. Папячыцель Навасільцаў вырашыў за лепшае пакінуць горад, бо студэнты пагражалі яму забойствам. Віленскі генерал-губернатар Храпавіцкі і 3-тысячны рускі гарнізон адчувалі сябе, як у парахавым склепе, выклянчвалі ў Дзібіча і цара падмацаванне і вытрымлівалі ў дачыненні да гараджан выключную далікатнасць.



**Напэўна, ніхто лепш не можа зразумець трагедыю беларускага народа, які перанёс чарнобыльскую катастрофу, чым японцы. Першымі адчулі яны на сабе вынікі ядзернага выбуху.**

**Японскаму фонду "Чарнобыль" толькі тры гады, але па ініцыятыве яго прэзідэнта Міноры Камата ўжо больш за 20 разоў дэлегацыі японскіх спецыялістаў наведвалі Чачэрскі раён, вывучаючы стан здароўя насельніцтва, асабліва дзяцей. Яны аказалі практычную дапамогу ў арганізацыі аховы здароўя, пастаўцы найноўшага медыцынскага абсталявання. Вынікам паездак з'явілася і выстава работ японскіх мастакоў, якія даволі рэальна адлюстравалі псіхалагічны стан людзей і жыццё іх на забруджанай зямлі. Выстава гэта пасля паказу ў Японіі пабывала ў Чачэрскім раёне. А нядаўна яна была паказана і ў Гомелі ў рамках япона-беларускага сімпозіума, што падвёў вынікі супрацоўніцтва з японскім фондам "Чарнобыль".**

**НА ЗДЫМКАХ:** прэзідэнт японскага фонду "Чарнобыль" Мінора **КАМАТА**; адна з рэпрадукцый работ японскіх мастакоў.

Сяргей **ХАЛАДЗІЛІН.**



*З ГІСТОРЫІ МАГІЛЁЎСКАГА ТЭАТРА*

# АД СКАМАРОХАЎ І БАТЛЕЙКІ

Больш за сто гадоў назад, 25 верасня 1888 года, гасцінна адчыніў дзверы перад сваімі першымі гледачамі магілёўскі тэатр, які зараз упрыгожвае адзін са старажытных пляцаў горада. Але ён не быў першым у горадзе.

Багатая гісторыя аднаго са старажытных гарадоў Беларусі захавала шмат успамінаў пра разнастайныя тэатры, якія калісьці існавалі ў Магілёве. Першыя звесткі пра нейкія формы тэатральнага мастацтва на Беларусі вядуць нас у глыбокую даўніну. Шмат даных пра іх ёсць у Радзівілаўскім летапісе (XIII--XV стагоддзі). Скамарохі з мядзведзямі хадзілі па шматлікіх гарадах і мястэчках Вялікага Княства Літоўскага, Польшчы, Расіі, Заходняй Еўропы. Далёка за межамі Вялікага Княства была вядома Смаргонская акадэмія, у якой скамарошнаму рамяству вучылі мядзведзяў. Выхаванцы акадэміі разам са сваімі важакамі вандравалі па Расіі, "былі частымі гасцямі на кірмашах Прусіі, Шлезвіга, Баварыі і Эльзаса".

Зразумела, што Магілёў не быў выключэннем. Так, калі мы звернемся да інвентара горада за 1604 год, то ўбачым, што на той час тут налічвалася 13 скамарохаў. Слова скамарох сустракаецца ў актах Магілёўскага магістрата другой паловы XVI стагоддзя ў якасці прозвішча. Усе гэтыя і шэраг іншых прыкладаў сведчаць аб шырокім распаўсюджанні скамароства сярод жыхароў горада ў тыя старадаўнія часы.

Адной з самых яркіх старонак гісторыі тэатральнага мастацтва ў Магілёве, як і па ўсёй Беларусі, была батлейка, якая адыграла важную ролю ў фарміраванні і станаўленні нацыянальных тэатральных традыцый. Узнікненне батлеечнага тэатра звязана з прапагандай царкоўнікамі хрысціянства (яны тэатралізавалі царкоўныя абрады). На Беларусь батлейку, верагодней за ўсё, занеслі езуіты, але не выключана магчымасць, што гэта зрабілі іншыя ордэны. Потым батлейкай займаліся ў асноўным шкалярысемінарысты духоўных школ, пазней яна трапіла да местачковых рамеснікаў, сялян. Аб рэпертуары гэтых невялічкіх тэатраў вельмі добра гавораць іх галоўныя ўдзельнікі -- лялькі. Некаторыя з іх захаваліся з мінулага стагоддзя і знаходзяцца ў былым Дзяржаўным музеі этнаграфіі народаў СССР. Ёсць там і магілёўскія лялькі: Васіль з доўбняй, Адам і Ева, Цыган, Яўрэй, Чорт і іншыя. Як бачым, драматургія народнага батлейкавага тэатра насіла як рэлігійны, так і свецкі характар. У музеі захоўваецца таксама цікавая двухпавярховая батлейкавая скрыня XIX стагоддзя з Магілёва. Усё гэта сведчыць аб шырокім распаўсюджанні батлейкі.

Не менш распаўсюджанай з'явай на Беларусі ў XVI--XVIII стагоддзях быў школьны тэатр, які аб'ядноўваў у сабе сукупнасць тэатральных паказаў, што ставіліся паводле п'ес, напісаных пераважна выкладчыкамі тагачасных навучальных устаноў (калегій, семінарый, акадэмій). Школьны тэатр існаваў і ў Магілёве. Дзейнічаў ён пры езуіцкім калегіуме. З 1698 года вядомы езуіцкі тэатр мімікі і паказу дыялогаў.

Аб дзейнасці школьнага тэатра сведчаць і друкаваныя праграмы магілёўскай школьнай сцэны. Цікавы той факт, што ў 1772 годзе ў сувязі з прыездам графа Францішка Асалінскага магілёўскія шкаляры выканалі панегірык, які называўся "Ганаровыя знакі -- дзедавы сякеры Асалінскіх" і праслаўляў аднаго з продкаў ганаровага госця. Падобнага кшталту панегірыкі неаднаразова выконваліся на школьнай сцэне.

З 1780 года вядомы так званы Чарнышоўскі тэатр. Названы ён па імені тагачаснага расейскага намесніка нашага краю З. Чарнышова, які ў Магілёве вёў падрыхтоўку да прыезду каранаваных асоб -- імператрыцы Кацярыны II і аўстрыйскага імператара Франца-Іосіфа II. У горад з'ехалася ўсё дваранства Магілёўскай і Полацкай губерняў. З Пецярбурга была выпісана Італьянская опера і прыдворная капэла. У ліку артыстаў вызначалася тагачасная славутасць Баніфіна. Дойлід Брынгозі пабудаваў для прадстаўленняў не толькі тэатр, але і вялікую бальную залу, дзе мясцовая знаць давала балы ў гонар імператрыцы.

**(Заканчэнне на 8-й стар.).**

# "Я ПРАМАЎЛЯЮ СЛОВА БОГ"

## (ПРА НОВУЮ ПАЭТЫЧНУЮ КНІЖКУ ВЕРШАЎ НАШАГА ЗЕМЛЯКА Міхася СКОБЛЫ)

Літаральна на днях у Мінску ў выдавецтве "Мастацкая літаратура" пабачыў свет новы паэтычны зборнік Міхася Скоблы "Вочы Савы". І хоць на вокладцы напісаны словы "Першая кніга паэта", хачу напомніць сваім землякам, што гэта ўжо трэцяя кніга маладога беларускага аўтара. Першая з іх з'явілася ў 1990 годзе пад назовам "Вечны Зніч", другая "Розгі ў розніцу" выйшла з друку ў мінулым годзе. І вось новая.

Я не выпадкова да гэтага матэрыялу ўзяў назву "Я прамаўляю слова Бог". Справа ў тым, што паэт сапраўды ў кожным вершы звяртаецца да Бога як да заступніка, як да суцяшальніка і дарадцы, які можа дапамагчы не толькі асобнаму чалавеку, а і ўсёй нашай Бацькаўшчыне. Вобраз і святло Бога праходзяць амаль праз усе вершы:

**Святкуючы перамогу,**
**ордэн паднесці і Богу...**
*(Верш "Круглая плошча").*
**З Богам пеўні**
**ладзяць перамовы...**
*(Верш "Готыкі Рыгі").*
**Посах Бог ад**
**прыкрасці сагнуў...**
*(Верш "Казка").*
**І храм без Бога**
**абыдуць тройчы...**
*(Верш "Ля Дома кіно. 1990").*
**Заміж Хрыста на сцяне --**
**хамут...**
*(Верш "Балада пра стайню").*
**Хай вас Бог, мае**
**родныя, крые!..**
*(Верш "Я хац[illegible] памерці ў сне...").*
**Да пана Бога, --**
**мовілі іншыя...**
*(Верш "За імгненне да вяртання ў гэты свет").*
**Тапелец ішоў па вадзе,**
**як Бог...**
*(Верш "Алес[illegible]павей").*
**І беларускі Бо[illegible]**
**сыдзе да іх з распяцця...**
*(Верш "Паэты" Тодара Копшы").*
**Бог ішоў, да**
**неба датыкаўся...**
*(Верш "Бог ішоў...").*
**Не адгукнуўся Бог чужы...**
*(Верш "Славянін -- раб").*
**І разгневаўся дзядзька Бог...**
*(Паэма "Герадотава Мора").*

Вам, відаць, надакучыла маё цытаванне радкоў са словам Бог. Але хачу адзначыць, што гэтыя вершы, як, дарэчы, і ўсе іншыя, вызначаюцца сваёй нетрадыцыйнасцю і навізной, глыбінёй думкі і своеасаблівым почыркам, а таксама рамантычнай узнёсласцю, грамадзянскай страснасцю і пранікнёным лірызмам. Можа трохі і занадта ў зборніку паэтычных вяртанняў да Бога, але ўсё па-майстэрску так добра пададзена і размешчана ў кнізе, што яшчэ больш надае паэзіі сілы, вобразнасці і адшліфаванасці.

Звяртаюць на сябе ўвагу ў зборніку вершы патрыятычнага гучання. Да іх можна аднесці вершы-прысвячэнні славутым людзям Беларусі: паэтам Алесю Салаўю, Карусю Каганцу, Пімену Панчанку, Аляксею Пысіну, мастаку Марку Шагалу і сябрам-равеснікам. У гэтых прысвячэннях моцна адчуваецца любоў паэта да роднай зямлі, да культуры і мастацтва нашых продкаў, да тых нацыянальных каштоўнасцей народа, якія даў Бог зберагчы да сённяшніх дзён, а таксама страціць:

**Праўды святой супольніцы --**
**кнігі Скарыны, Буднага,**
**Крыж Еўфрасінні Полацкай...**
**"Страчана..."**
**"Знішчана..."**
**"Згублена...".**

Шмат у зборніку Міхася Скоблы "Вочы Савы" вершаўверлібраў, якія вызначаюцца філасафічнасцю, смелай метафарычнасцю і глыбінёй. Мне, праўда, больш даспадобы рыфмаваныя строфы, а таксама вершы з маленькім сюжэтам, дзе добра паказаны настрой і характар як аўтара, так і ягоных герояў. Пісаў я раней, хачу і зараз адзначыць два хрэстаматыйныя і яркія паэтычныя творы з новага зборніка Міхася Скоблы. Гэта вершы "Балада пра стайню" і "Бацька прыйшоў...". Дарэчы, нядаўна ў час сустрэчы аўтара з паэтам Анатолем Вялюгіным Міхась атрымаў пахвальныя словы наконт верша "Балада пра стайню". Значыць, я не памыліўся. І наогул, я так лічу, калі пасля новага зборніка паэта застаецца ў памяці і западае ў душу хоць адзін ягоны верш, значыць, зборнікварты ўвагі, значыць паэт адбыўся. У Міхася Скоблы такіх вершаў шмат.

Беларускі паэт Ігар Шкляраўскі, які жыве ў Маскве і піша на расейскай мове, неяк напісаў такі верш:

**-- Поспи, -- говорила мать.**
**-- Вставай! -- говорил отец.**
**-- Поешь, -- говорила мать.**
**-- Учись! -- говорил отец.**
**Приеду. Слова все те ж,**
**Да только не все слова.**
**Осталось: -- Поспи, поешь... --**
**А следом шумит трава.**

Моцныя радкі, ці не так?! Падобнае ёсць і ў Міхася Скоблы. Падобнае, ды не зусім:

**Бацька прыйшоў.**
**На парозе прысеў,**
**з працы нібыта**
**вярнуўся дахаты.**
**-- Што ж ты адрокся, сынок,**
**як і ўсе!**
**Што ж не адведаеш таты!**
**-- Помніш,**
**маленькі, хапаўся за руль,**
**сынку,**
**бялявы, як сонейка...**
**І не схапіцца за:**
**"Тата, даруй!.." --**
**як за саломінку...**
**Дзе ж тваё поле**
**і жаўранкі дзе!**
**Крыж ды півоні,**
**ды месячык...**
**Выйсці на волю**
**хацеў да людзей --**
**дротам завязаны веснічкі.**
**Скрып калаўрота**
**ў калодзеж упаў.**
**Кружаць над возерам чайкі.**
**Вецер з веранды**
**выдзьмухвае пах**
**бацькавай**
**чорнай**
**фуфайкі...**

Тэма гэтых вершаў адна, але кожны з двух паэтаў па-свойму прафесійна і шчыра выказаўся пра тое, што баліць. Такія вершы кранаюць чытачоў, кладуцца на душу, запамінаюцца і жывуць...

Пра новы зборнік нашага земляка можна пісаць шмат. Скажу яшчэ, што на апошніх яго старонках змешчана і сатырычна-іранічная паэма-сваволя "Герадотава Мора". Прачытаўшы апошнія старонкі зборніка вершаў "Вочы Савы" Міхася Скоблы, міжволі ўспомніў радкі Уладзіміра Караткевіча:

**"На Беларусі Бог жыве", --**
**Так кажа мой просты народ...**

Відаць, так! Бог жыве і ў паэзіі гэтага аўтара-беларуса, а значыць -- жыве і ў яго душы, бо талент у Міхася Скоблы сапраўды ад Бога.

Сяргей **ЧЫГРЫН.**





Канец вясны і пачатак лета ў Беларусі выдаліся халоднымі, дажджлівымі. Непагадзь нарабіла нямала бяды: патокі вады зносілі птушыныя гнёзды, залівалі норы, прымушаючы ўцякаць ад стыхіі барсукоў, лісіц... Шукалі больш высокія і сухія мясціны зайцы...

Але жыццё брала сваё. Птушкі будавалі новыя гнёзды, знаходзілася зацішнае месца для звяроў. А хутка з'явілася і патомства: у лясных гушчарах затаіліся малыя, качкі ж са сваім выводкам не вельмі і баяцца людзей, спакойна плаваюць навідавоку ў вялікіх і малых рэчках, вадаёмах, гарадскіх вадасховішчах. Ледзь не з рук бяруць пачастункі. І чалавек стараецца не пакрыўдзіць іх.

**НА ЗДЫМКАХ:** маленькі зайчык пазіруе фотааматару; качка з качанятамі для свайго жылля аблюбавала Камсамольскае возера ў Мінску.

Фота Я. ВІКТАРАВА і М. ЖЫЛІНА.

## ЛІСТКІ З КАЛЕНДАРА




**21 чэрвеня, аўторак**

**Аляксандр Казіміравіч Сержпутоўскі нарадзіўся ў вёсцы Бялевічы Слуцкага павета Мінскай губерні ў сям'і беззямельнага селяніна. Дзяцінства будучага вучонага прайшло ў вёсцы Пярэвалакі, на поўдні Случчыны. Скончыўшы Нясвіжскую настаўніцкую семінарыю (1884), ён працаваў у розных школах Слуцкага і Мазырскага паветаў і адначасова займаўся вывучэннем мовы, быту, духоўнай і матэрыяльнай культуры беларусаў-палешукоў. З 1893 года жыў у Мінску і служыў у зямельным банку, затым у паштова-тэлеграфным ведамстве. Восенню 1896 года пераехаў у Пецярбург, дзе вучыўся на вышэйшых юрыдычных курсах і ў археалагічным інстытуце, які скончыў у 1904 годзе. Праз два гады перайшоў на працу ў Рускі музей, дзе ў этнаграфічным аддзеле на розных пасадах працаваў да выхаду на пенсію ў 1930 годзе. Працаваў таксама ў Рускім геаграфічным таварыстве, правадзейным членам якога быў абраны ў 1925 годзе. Па заданню гэтых установ ён ажыццявіў 25 этнаграфічных экспедыцый, прычым 8 -- у Беларусь, падчас якіх праехаў і прайшоў яе ўдоўж і ўпоперак. Вялікую ўвагу вучоны ўдзяліў абследаванню Слуцкага і Мазырскага паветаў, [illegible]ваўшы там некалькі раз[illegible]. Падчас экспедыцый сабраў вялікую колькасць этнаграфічных матэрыялаў, якія разам з накопленымі раней ён абагульніў у шэрагу навук[illegible]х прац: "Сказки и расказ[illegible]елорусов-полешуков" (1911), "Казкі і апавяданні беларусаў з Слуцкага павета" (1926), "Прымхі і забабоны беларусаў-палешукоў" (1930), "Грамматический очерк белорусского наречия дер. Чудино Слуцкого уезда, Минской губернии" (1911) і два слоўнікі беларускай народнай мовы. Першы слоўнік кваліфікаваўся аўтарам як дадатак да складзенага ім "Сборника белорусских пословиц и поговорок". За рукапіс гэтых дзвюх навуковых прац аўтар быў узнагароджаны малым залатым медалём. Праўда, самі гэтыя працы не былі выдадзены, і рукапіс іх потым прапаў. Такі ж лёс напаткаў і другую лексікаграфічную працу А.К. Сержпутоўскага -- "Краткий словарь белорусского детского языка".**

**А.К. Сержпутоўскі цікавіўся пытаннямі беларускага правапісу і графікі, прысвяціў ім некалькі артыкулаў і выступленні на "Акадэмічнай канферэнцыі па рэформе беларускага правапісу і азбукі" (1926), у рабоце якой удзельнічаў з правам рашаючага голасу.**

**І. ГЕРМАНОВІЧ.**

# АД СКАМАРОХАЎ І БАТЛЕЙКІ

**(Заканчэнне. Пачатак на 7-й стар.).**

Усе гэтыя збудаванні знаходзіліся побач з губернатарскім домам.

Пасля ад'езду Кацярыны II у горадзе нейкі час існаваў аматарскі калектыў, які разам [з] тэатрам Чарнышова дава[ў] прадстаўленні ў памяшканні тэатра.

Былі ў Магілёве і прыватныя тэатры. Адзін з іх належаў вядомаму на той час на Белару[сі] каталіцкаму біскупу С. Богуш-Сестранцэвічу. У 1788 годзе ў гэтым тэатры была пастаўлена трагедыя ў пяці актах "Ора". Па звестках вядомага беларускага даследчыка А. Мальдзіса, С. Богуш-Сестранцэвіч напісаў і паставіў трагедыю "Гіцыя ў Таўрыдзе". Вядомым тэатральным крытыкам, аўтарам трагедыі "Уваскрашэнне мёртвых" быў Г. Каніскі, які жыў у той час у Магілёве. Прыкладна ў той жа час у горадзе выступала трупа, сфарміраваная А. Жукоўскім. У яе рэпертуары былі п'есы на польскай і рускай мовах.

Шмат гастроляў, асабліва рускіх тэатраў, было на працягу мінулага стагоддзя, але ўсе яны праводзіліся па розных памяшканнях, а ўлетку -- дзе-небудзь у парку, на летняй сцэне. Так, у 1870 годзе гастролі прыезджых труп праходзілі ў тэатральным памяшканні гарадскіх казарм. У зімовы сезон 1871--1872 гадоў -- у прыватным тэатральным памяшканні, якое належала Файніцкаму, у 1881--1882, 1882--1883, 1885--1886 гадах -- у каменным будынку Я. Лур'е.

З перапіскі з віленскім губернатарам Мураўёвым вядомы праект стварэння ў Магілёве "рускага тэатра". У ім паведамлялася, што ў горадзе ёсць здольныя акцёры, якія маглі б скласці неблагую трупу, але для гэтага былі патрэбны грошы -- не менш як 3 000 рублёў -- на іх утрыманне, а таксама на будынак. Пра апошні гаворыцца, што ён згарэў падчас пажару 1848 года. Адбудаваць яго браўся Моўша Ізазорт, але пры гэтым паставіў шэраг умоў. Так, будынак павінен быў здавацца не менш як на 25 гадоў, арэндная плата пры гэтым складала 1 000 рублёў у год. Былі і іншыя ўмовы. На жаль, з дакументаў невядома, чым скончылася гэтая справа. Але ў адным з лістоў Мураўёў адзначае, што грошай на ўтрыманне тэатра ў 1865 годзе няма і ён не разумее, што значыць эпітэт "русский, придаваемый Могилёвскому театру", таму што тут жывуць усе рускія і іншага тэатра быць не можа.

З вышэйсказанага добра бачна, як неабходны быў гораду пастаянны тэатральны будынак. І на пачатку 1880-х гадоў па губерні быў аб'яўлены збор сродкаў на пабудову тэатра. Заможныя людзі сустрэлі гэтую прапанову прыхільна і падтрымалі ініцыятыву. І вось у 1886 годзе, калі была сабрана неабходная сума, пачалося будаўніцтва.

Аўтарам праекта быў епархіяльны архітэктар Пётр Камбураў, якому дапамагаў інжынер В. Міляноўскі. У плане тэатр уяўляе прамавугольны аб'ём, у цэнтры якога размешчана глядзельная зала на 500 месцаў. У аздобе інтэр'ера былі выкарыстаны формы народнай разьбы па дрэву. Найбольш прыгожай мастацкай разьбой вылучалася губернатарская ложа. Вонкавая аздоба, як і аздоба інтэр'ера, носіць эклектычны характар. Дзве вежачкі і балкон над уваходам, які абапіраўся на некалькі калон, упрыгожвалі фасад будынка. Пазней з тыльнага боку прыбудавалі балкон, на якім у выхадныя дні іграў аркестр.

Тэатр быў пабудаваны ў псеўдарускім стылі. На яго выгляд аказала ўплыў панаваўшая на той час эклектыка. Пад ёю ў архітэктуры і іншым мастацтве разумеюць змяшэнне стыляў і асобных элементаў розных стыляў. Урачыстае адкрыццё новага тэатра адбылося 25 верасня 1888 года. На сцэне ішла прэм'ера п'есы "Другая маладосць".

Аб цікавасці мясцовай інтэлігенцыі да тэатральнага жыцця сведчыць і той факт, што з 1886 года ў Магілёве існавала музычна-драматычнае таварыства.

У будынку тэатра гастралявалі рускія трупы Пецярбургскага літаратурна-мастацкага тэатра, кабарэ "Летучая мышь", Малога тэатра, польскія трупы В. Ашпергера, К. Фядзецкага, Я. Хелмікоўскага і інш. Тут выступалі вядомыя акцёры В. Камісаржэўская, П. Арленаў, спевакі Ф. Шаляпін, Л. Собінаў. У 1914 годзе ў горадзе гастралявала трупа рускіх акцёраў пад кіраўніцтвам У. Кумельскага, Н. Шэстава.

У 1917 годзе, адразу пасля ліквідацыі Стаўкі, у будынку тэатра адбыўся мітынг, на якім выступіў першы вярхоўны галоўнакамандуючы Савецкай дзяржавы М. Крыленка.

Жыццё магілёўскага тэатра не спыняецца і ў нашы дні, хаця тэатр перажывае нялёгкі час. Шмат праблем у калектыва ва ўмовах пераходу да рынку ў плане творчым і фінансавым. Але горад, здаецца, зноў павярнуўся тварам да старэйшага творчага калектыву, таму надзея на будучыню ёсць.

Гэтыя нататкі -- толькі невялічкая частка мастацтва ў гісторыі тэатральнага Магілёве. Яна, безумоўна, заслугоўвае асобнага даследавання.

**Зміцер ЯЦКЕВІЧ.**

**Рэдактар Вацлаў МАЦКЕВІЧ**

**ЗАСНАВАЛЬНІК:**

Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства "Радзіма").



**НАШ АДРАС:**

220005, МІНСК, ПРАСПЕКТ Ф. СКАРЫНЫ, 44.

ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.



Газета набрана і звярстана ў камп'ютэрным цэнтры рэдакцыі газеты "Вечерний Минск". Аддрукавана ў друкарні "Беларускі Дом друку". Тыраж 6 000 экз. Індэкс 63854. Зак. 860. Падпісана да друку 20. 6.1994 г.